Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№97(610) 22 мая 1993 г. Субота. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 618816 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### Сплотим ряды вокруг “Народной”

Как известно, подписка на газеты и журналы продолжается до 4 июня. Но вот промежуточные итоги — на 15 мая “Народная газета”, возраст которой исчисляется всего тремя годами, имеет уже почти 218 тысяч подписчиков. Всего на несколько тысяч обходит “Советская Белоруссия”, день рождения которой уходит в далекий 1927-й год. Видимо, очень многим читателям пока ближе “великий и могучий” русский язык, чем родной белорусский. “Народная” же с первого дня издается на двух языках — русском и белорусском.

Неплохо идет подписка на газету “Звязда” — 94130 экземпляров. Чуть меньше у поклонников еженедельника “7 дней” — 76566. Газеты “Знамя юности” и “Республика” пока имеют лишь по 31 тысяче подписчиков.

Петр КАМИНСКИЙ.

### Ах, этот удивительный Филипп!..

Об экстравагантных и забавных приключениях Филиппа Киркорова в Минске читайте на 3-й странице нашей газеты.

Фото Николая АМЕЛЬЧЕНКО.

### Третьим будет

**Торжественная закладка первого камня в фундамент спецдиспансера, подобных которому в мире всего два, состоялась на днях в Гомеле.**

Словенско-швейцарская фирма “Смелт-Интаг” обязалась сдать объект под ключ за 24 месяца. Здесь будет самое современное оборудование, отделение трансплантации костного мозга...

Анатолий ГОТОВЧИЦ.

### “Фандок” побил “Динамо”, а вслед и “Шахтер”

Состоялись матчи 27-го тура Национального чемпионата Беларуси по футболу. Вот их результаты: “Строитель”—“Торпедо” (Мн) — 0:1, “Торпедо” (Жд) — “Днепр” — 1:3, “Локомотив” — “Беларусь” — 0:2, “Обувщик” — “Динамо” (Бр) — 1:1, “Шахтер” — “Фандок” — 0:2, “Динамо” (Мн) — “Неман” — 1:1, “Молодечно” — “КИМ” — 1:2, “Ведрич” — “Торпедо” (Мг) — 0:0.

Положение команд после 27-го тура

| | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1.Динамо Мн | 26 | 21 | 4 | 1 | 70—17 | 46 |
| 2.Фандок | 26 | 14 | 8 | 4 | 27—9 | 36 |
| 3.Беларусь | 25 | 15 | 5 | 5 | 38—18 | 35 |
| 4.Неман | 26 | 13 | 9 | 4 | 25—22 | 35 |
| 5.КИМ | 25 | 13 | 9 | 3 | 37—17 | 35 |
| 6.Днепр | 26 | 12 | 7 | 7 | 37—26 | 31 |
| 7.Динамо Бр | 25 | 10 | 8 | 7 | 25—19 | 28 |
| 8.Торпедо Мг | 25 | 7 | 12 | 6 | 25—11 | 26 |
| 9.Торпедо Мн | 25 | 8 | 9 | 8 | 21—22 | 25 |
| 10.Гомсельмаш | 25 | 8 | 7 | 10 | 20—23 | 23 |
| 11.Шахтер | 25 | 7 | 9 | 9 | 15—24 | 23 |
| 12.Молодечно | 26 | 7 | 7 | 12 | 33—34 | 21 |
| 13.Локомотив | 25 | 4 | 11 | 10 | 20—30 | 19 |
| 14.Строитель | 26 | 6 | 6 | 14 | 16—33 | 18 |
| 15.Ведрич | 25 | 2 | 6 | 15 | 17—47 | 14 |
| 16.Обувщик | 25 | 2 | 8 | 15 | 11—37 | 12 |
| 17.Торпедо Жд | 26 | 1 | 3 | 22 | 15—55 | 5 |

### Вкратце

**В Минск в рамках проекта “Надежда” прибыл очередной рейс из Америки с грузом гуманитарной помощи.**

Доставлены лекарства и медицинские препараты для пострадавших от чернобыльской катастрофы стоимостью около 2 миллионов долларов США.

❑

**В Юрмале вчера завершился очередной раунд российско-латвийских переговоров о выводе войск из этой республики.**

Следующий раунд начнется в Москве 31 мая. Участники переговоров все еще не согласовали сроков завершения вывода российских войск из Латвии.

❑

**Эстония решила допустить неграждан республики к участию в выборах в местные органы власти, если они проживали в этой стране последние пять лет.**

Баллотироваться, однако, могут только эстонские граждане не моложе 18 лет.

❑

**В результате однодневной забастовки работников общественного транспорта в Варшаве вчера не ходили автобусы и трамваи.**

Забастовка проводилась с целью поддержки бастующих учителей и врачей.

❑

**В Армении восстановлен комсомол.**

Учредительное собрание этой организации состоялось в Ереване.

### За улитками — бегом!

**Со всех ног бросились собирать улиток граждане Витебска, прослышав, что их покупают в местном рыбхозе по 120 рублей за килограмм.**

В считанные дни “поголовье” моллюсков, обитающих на кустах вдоль реки Витьбы, сократилось до единичных особей.

Оказывается, редкий бизнес делает некая обосновавшаяся на территории рыбного хозяйства коммерческая фирма.

За границей эти моллюски являются деликатесом.

Кстати, распространение виноградной улитки в республике ограниченно. То ли еще будет после массовой охоты на нее, если она не научится бегать.

Сергей БУТКЕВИЧ.

### Дипломную написать — только деньги передать

**По достоверным сведениям, в одном из минских вузов, название которого по понятным причинам не разглашается, написание дипломной работы стоит около 45 тысяч рублей.**

Сумма колеблется в зависимости от темы работы и ее практической части. Причем особую негативность “интеллектуальной” коммерции придает тот факт, что авторами липовых дипломных работ выступают непосредственно преподаватели, а иной раз даже руководители дипломных работ.

Ирина КАПУСТИНА.

### Поезда переходят все границы. Но чаще из Литвы

**С воскресенья поезда за границу будут ходить по новому графику.**

Как нам сообщил директор малого государственного предприятия “Дортур” Виктор Янковенко, из Минска теперь пассажиры смогут отправляться в Будапешт через Львов. Четыре раза в неделю из столицы вагоны будут ходить в Софию. По-прежнему каждый день — поезда в Польшу. Практически без изменений остаются лишь традиционные маршруты в Германию, Чехию, Словению.

Однако вызывает тревогу уменьшение пассажиропотока в последнее время. Как считают специалисты, это вызвано нашими таможенными правилами. Зачастую негласными. Из России сейчас стараются ездить через Литву...

Виктор АНАТОЛЬЕВ.





Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов “Народной газеты” агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## З кворумам і валютай цяжка. Але праца над Канстытуцыяй ідзе

Павел СТАСЕВІЧ

Учарашняе “Рознае”, з якога пачаўся парламенцкі дзень, было кароткім, але цікавым, заклапочаным і эмацыянальным.

Сур’ёзны тон размове адразу надаў народны дэпутат Мікалай Бойка. Ён зачытаў заяву прафсаюзаў прамысловасці, у якой гаварылася аб выключна цяжкім фінансава-эканамічным стане многіх прадпрыемстваў, галіновай навукі і г.д. Вынік гэтага — спыненне заводаў, вымушаныя водпускі, пагроза масавага беспрацоўя, абвастрэнне сацыяльнага напружання. Цярпенне людзей можа хутка лопнуць, неабходна сумесна з урадам шукаць шляхі, каб выправіць становішча, — настойваў Мікалай Бойка.

Затым на парламенцкую трыбуну для адказу на запыт народнага дэпутата Івана Герасюка падняўся міністр хлебапрадуктаў рэспублікі Мікалай Якушаў. Гаварыў ён пра цяжкасці работы, недахоп зерня, камбікармоў, а “попутно” рабіў спробу абараніць урад і міністэрства ад “огульных”, на яго думку, абвінавачванняў.

На жаль, такая спроба “забіць двух зайцоў” удалася міністру слабавата. Да яго адразу ўзніклі канкрэтныя пытанні, напрыклад, з боку Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча. Ды і ў парламенцкай зале, адчувалася, адказы міністра мала каго задаволілі.

А вось наступнае выступленне — народнага дэпутата Уладзіміра Сапронава — парламент слухаў уважліва і сур’ёзна. Бо гаварыў ён з вялікай горыччу і пра вялікія грошы, якія траціць Беларусь і “Беларускалій” з-за таго, што каштоўнейшы нацыянальны валютны тавар, якім з’яўляюцца мінеральныя ўгнаенні, прадаецца па заніжаных цэнах.

Больш таго. Дэпутат прывёў канкрэтныя факты, калі беларускія мінеральныя ўгнаенні рээкспартаваліся з Польшчы ў Турцыю з дазволу, паводле слоў дэпутата, гандлёвага прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь у Польшчы. Называліся і лічбы: каля 15,5 тысячы тон “перагнанага” хлорыстага калію азначаюць, што ў рэспубліцы “ўкрадзены” міжнародны рынак на 1 мільён долараў. І гэта — толькі адна “сделка”. А калі дадаць і іншыя?

Як падкрэсліў Уладзімір Сапронаў, гэта ўжо сістэма, існуюць фірмы, якія спецыяльна “іграюць” на паніжэнні цэн на беларускія калійныя ўгнаенні — стратэгічны наш тавар.

Валютную тэму прадоўжыў і народны дэпутат Іван Герасюк. Вельмі шкада, што міністр Якушаў так хутка сышоў з трыбуны, — адразу адзначыў ён. Бо пытанняў да Міністэрства хлебапрадуктаў і яго кіраўнікоў — М.Якушава і звольненага ўжо з пасады С.Мазалюка (зараз працуе ў камерцыйнай структуры) ёсць шмат. І Іван Герасюк яшчэ раз задаў іх і міністру, і міністэрству, і народным дэпутатам: да якога часу будуць бескантрольна “сплываць” дзяржаўныя валютныя сродкі?

“Міністра ў адстаўку!..” — такой эмацыянальнай была рэакцыя многіх парламентарыяў на сказанае Іванам Герасюком. Было бачна, што валютнае пытанне — з тых, у якім кансенсус хутка знаходзіцца паміж усімі парламенцкімі фракцыямі і групамі.

Час пакажа, як з ім справяцца нашы выбраннікі і наш урад. Справа, відаць, будзе ісці няпроста, бо нават на сваім кворуме дэпутаты доўга-такі “буксавалі”.

Як прымусіць народнага выбранніка заняць сваё рабочае месца ў парламенце? — вось пытанне, якое доўга, горача і нават з эмацыянальнымі пераборамі дыскутавалася.

Думкі, як заўсёды, розніліся дыяметральна. Адны дэпутаты даводзілі, што толькі прафесійны парламент зможа гэтую хваробу вылечыць; другія настойвалі на больш строгіх мерах, якія трэба ўвесці заканадаўча; трэція вінавацілі Прэзідыум; чацвёртыя заклікалі ўспомніць тое, што абяцалі выбаршчыкам; а пятыя спрабавалі ўскласці ўсю віну на Станіслава Шушкевіча.

“Закіпеўшую” залу спакойна і ўмела ахаладзіў С.Шушкевіч, які аб’явіў аб маючым адбыцца пасяджэнні Прэзідыума, дзе ўсе прапановы па арганізацыйна-дысцыплінарных пытаннях будуць абмеркаваны.

Пасля гэта работа над артыкуламі Канстытуцыі пачалася ўдумлівая і канструктыўная. Правы ўласнікаў, ахова здароўя, прыроды, пенсійнае забеспячэнне, адукацыя і г.д. — вось тэмы, якія разглядаліся.

Часта браў слова Генеральны пракурор рэспублікі Васіль Шаладонаў: у дэпутатаў былі пытанні, просьбы ўдакладніць асобныя палажэнні, растлумачыць фармулёўкі.

Паартыкульнае абмеркаванне Асноўнага Закона працягвалася да канца дзённага пасяджэння.

*Зварот да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіча, да народных дэпутатаў Беларусі*

## Не спыняць нацыянальна-культурнае адраджэнне!

У студзені 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Закон аб мовах, паводле якога беларуская мова прызнана дзяржаўнай мовай рэспублікі. У “Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі” (арт.9) запісана, што Рэспубліка забяспечвае функцыяніраванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. У беларусаў з’явілася цвёрдая надзея на адраджэнне сваёй нацыянальнай культуры. Пачалося выкананне Закона аб мовах: з’яўляюцца беларускамоўныя школы, гімназіі і ліцэі, рабочай становіцца беларуская мова ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах, у дзяржаўных установах рэспублікі. У прыватнасці, пасля прыняцця Закона аб мовах у Мінскім педагагічным інстытуце імя А.М.Горкага шэраг вучэбных дысцыплін чытаецца на беларускай мове, з 1 верасня 1993 г. на першых курсах усе прадметы будуць выкладацца на роднай мове.

Аднак у апошні час у перыядычным друку, па радыё і тэлебачанні настойліва гучаць беспадстаўныя патрабаванні і заклікі да перагляду Закона аб мовах, да ўвядзення дзяржаўнага двухмоўя. Кампанія супраць нацыянальнай мовы, якую разгарнулі некаторыя сродкі масавай інфармацыі, выклікае гнеў і абурэнне. Дзеянні тых, хто ўспрымае нацыянальнае адраджэнне, абавязковае выкладанне і вывучэнне беларускай мовы як “гвалтоўную беларусізацыю”, нельга назваць інакш, як кашчунствам. Настойлівае патрабаванне ўзаконіць у Беларусі так званае двухмоўе і прапановы вынесці гэтае пытанне на ўсенародны рэферэндум сведчаць аб тым, што пэўныя сілы ставяць за мэту спыніць нацыянальна-культурнае адраджэнне, якое прыкметна набірае моц у рэспубліцы.

У нашай краіне няма падстаў для ўвядзення другой дзяржаўнай мовы. Руская мова здаўна прыхільна прымалася беларусамі, яе вывучалі і вывучаюць у школах рэспублікі. Паводле Закона аб мовах Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай.

Увядзенне дзвюх дзяржаўных моў у Беларусі паставіць пад пагрозу існаванне і мовы, і культуры беларускага народа, суверэнітэт рэспублікі.

Мы, супрацоўнікі і студэнты Мінскага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага, асуджаем ганебныя выпады супраць беларускага народа і яго мовы, кваліфікуем іх як падрыў незалежнасці беларускай дзяржавы.

Звяртаемся да Вас, шаноўны Станіслаў Станіслававіч, і да вас, паважаныя дэпутаты Вярхоўнага Савета: “Станьце на абарону мовы і культуры незалежнай беларускай дзяржавы!”

Каб Закон аб мовах выконваўся, прапануем не дапусціць вынясення пытання аб дзяржаўным двухмоўі на рэферэндум. Ні ў адной цывілізаванай краіне такое пытанне не вырашаецца шляхам рэферэндуму.

**Леанід ЦІХАНАЎ,** рэктар інстытута, прафесар;
**Мікалай ПЛЕСКАЦЭВІЧ,** першы прарэктар па вучэбнай рабоце, дацэнт;
**Міхась ЯЎНЕВІЧ,** загадчык кафедры беларускага мовазнаўства, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, заслужаны настаўнік Беларусі;
**Міхаіл ЦЭДРЫК,** прарэктар па навуковай рабоце, прафесар, заслужаны работнік вышэйшай школы;
**Аляксандр ЛУГОЎСКІ,** дэкан факультэта беларускай філалогіі і культуры;
**Уладзімір ЯКАВЕНКА,** дэкан фізічнага факультэта, прафесар, заслужаны работнік адукацыі;
**Мікалай АПІМАХ,** дэкан факультэта дашкольнага выхавання, дацэнт;
**Мікалай МІЦКЕВІЧ,** дэкан спецыяльнага факультэта падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі кадраў адукацыі, дацэнт;
**Аляксей ТАЎЛАЙ,** дэкан факультэта педагогікі і методыкі пачатковага навучання, дацэнт;
**Пятрусь КІБАЛКА,** дэкан факультэта даінстытуцкай падрыхтоўкі, дацэнт;
**Януш МАЦЭВІЧ,** дэкан музычна-педагагічнага факультэта;
**Мечыслаў ДАРАШКЕВІЧ,** загадчык кафедры асноў медыцынскіх ведаў, прафесар;
**Адам ГРЫМАЦЬ,** загадчык кафедры педагогікі, дацэнт;
**Іна КАЗІМІРСКАЯ,** загадчык кафедры педагогікі і методыкі выхаваўчай работы, доктар педагагічных навук;
**Якаў КАЛАМІНСКІ,** загадчык кафедры агульнай і дзіцячай псіхалогіі, прафесар;
**Ефрасіння АНДРЭЕВА,** прафесар, доктар педагагічных навук;
**Ніна ГАЎРОШ,** дацэнт;
**Ліда ВЕРАБЕЙ,** загадчык аддзела аспірантуры;
**Эдуард КРАЎЧЭНЯ,** загадчык кафедры тэхнічных сродкаў навучання, дацэнт;
**Мікалай ЮШКЕВІЧ,** начальнік вучэбнага аддзела, дацэнт;
**Васіль БОНДАР,** загадчык кафедры агульнай фізікі, дацэнт;
**Алена КАВАЛЕНКА,** начальнік аддзела кадраў;
**Таццяна СТАРАСЦЕНКА,** студэнтка V курса факультэта беларускай філалогіі і культуры і іншыя — усяго 892 подпісы.

*Чаму я пачынаю дзень з “Народнай газеты”?*

**Фёдар Мікалаевіч КАПУЦКІ, член-карэспандэнт Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, рэктар Белдзяржуніверсітэта:**

— Я лічу “Народную” адной з лепшых нашых газет. Выпісваю яе з дня заснавання. Газета эмацыянальная, праўдзівая, у ёй адчуваецца дух часу. Мне імпануе, што яна прадастаўляе сваю трыбуну для людзей, якія іншы раз маюць супрацьлеглыя меркаванні і погляды. Гэта вельмі каштоўна, што газета не навязвае сваё меркаванне або меркаванне якойсьці пэўнай групоўкі чытачам, а дае нам шырокую панараму грамадскіх поглядаў. Буду выпісваць “Народную” і надалей, раю гэта зрабіць і ўсім астатнім.

*Факт*

### “Спатканне” з Божай Маці

**У своеасаблівую Мекку ператварылася сёння вёска Жыровічы, што непадалёку ад Слоніма. З многіх рэгіёнаў Беларусі і блізкага замежжа сюды прыбылі сотні людзей, каб пакланіцца цудатворнай іконе Маці Божай. У мясцовай Яўленскай царкве, дзе яна захоўваецца, адбылася святочная літургія, было шэсце з хрэсным ходам. Ва ўрачыстасцях удзельнічаў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх Усея Беларусі.**

Тутэйшыя мясціны лічацца свяшчэннымі з 1470 года. Менавіта тады, сведчыць паданне, вясковыя пастушкі знайшлі ў навакольным лесе абраз, якому наканавана было стаць славутым, бо калі згарэў храм, абраз з вывай жанчыны з дзіцем уцалеў. З тых часоў ён і ўпрыгожвае адбудаваную нанова царкву. І ўжо многа-многа гадоў людзі па традыцыі збіраюцца тут, каб выказаць павагу святым мясцінам.

Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, Белінфарм.

*Слонімскі раён.*

*Задумайтесь, люди!*

## Безымянная могилка на опушке. Кто в ней?

Алесь ПАВЛОВИЧ

Случается, что сухие цифры действуют на воображение сильнее, чем самые красноречивые факты. Вдумайтесь — за три дня Пасхи, светлого Воскресения Христова, когда размягчено сердце и люди прощают друг другу, в нашей республике было убито более сорока человек. Лишь несколько жертв случайны — дорожно-транспортные происшествия, пожары, остальные убиты по пьяной и дикой злобе, из-за денег, из-за вещей. Среди тех, кто убивал и кто убит, много молодежи. Можно ли после этого считать, что живем мы праведно, что достойны человеческого звания?

И вот вам еще два случая из тех, что, может быть, сегодня уже и не удивляют никого, потому что стали обыденными, но от того они выглядят еще более чудовищными. Откуда “прет” эта чернота, откуда сваливается на нас эта напасть? Ну, нельзя же серьезно повторять за безграмотными бабками и чересчур образованными философами, что все это — проделки Сатаны и явления Антихриста. Легче всего списать кровь и ужас на них. Труднее всмотреться, поглядеть на своих детей да и крепенько задуматься — что же с нами происходит?

В педиатрическом отделении Кличевской райбольницы кто-то вспомнил: почему давно не показывается мама Леонтьева из деревни Биордо? Ее сынишка Виталий состоит на учете и давно уже прошло время очередного осмотра. Напомнили раз, напомнили другой. Молодая мама — как в рот воды набрала. А тем временем на лесной опушке нашли безымянную могилку, которая привлекала запахом и людей, и скот, который мирно пасся неподалеку. Раскопали. И вздрогнули — в наспех вырытой ямке лежал полуразложившийся трупик маленького мальчика. Дальше — больше. После вызова в милицию, Леонтьева (фамилию я изменил, причину вы понимаете — ее ведь обязательно уничтожат в колонии, такие уж за проволокой обычаи. Хотя, если честно, то не жалко...) не стала запираться. Да, Виталик был болезненный, требовал внимания, а муж ворчал и выражал неудовольствие. Тогда за рюмочкой по-семейному, по-домашнему посоветовались и решили: избавимся от мальчонки, а там, глядишь, и другого заведем. Взяли спящего за ножку и с размаху — об стенку. Вот и вся история.

Хорошо бы откликнуться на нее какой-то статьей, вызвать дискуссию, поговорить о человеколюбии, родительском долге, самоценности человеческой жизни. Только ли не зряшное сегодня это дело? Что поможет Анне С. из Орши, которая на днях поругалась со своим мужем да и не нашла ничего лучшего, как подкрасться к нему и отрубить ему голову. А потом спокойно перетащила труп в собственный огород и закопала среди грядок. Да такой, по-моему, с позволения сказать, “женщине” хоть всего Федора Михайловича Достоевского перечитай вслух, хоть десять экземпляров Писания подари — ничем не достучишься ни до ума, ни до сердца.

А сколько среди нас таких! И главное вот — почему?

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

## Паэзія — госця нябесная

**Міколу Федзюковічу — пяцьдзесят. Не вельмі сур'ёзны ўзрост, каб падводзіць вынікі, але ж дастатковы для таго, каб азірнуцца назад і даць волю ўспамінам...**

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Сем паэтычных зборнікаў на рускай і беларускай мовах у розныя гады. Супрацоўнік "Чырвонай змены". Сёння — вядучы праграмы літаратурнай рэдакцыі рэспубліканскага радыё.

Прапануем чытачам вершы М.Федзюковіча. Кожны з вас знойдзе ў іх сваё. Балючае і радаснае, сумнае і добрае. А рэдакцыя "Народнай газеты" ад шчырага сэрца жадае Мікалаю Мікалаевічу ўсяго самага добрага і светлага!

**Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ**

### Элегія

*Цень прадвесняга дня —*
*смутак мой вечаровы!*
*Ад ідна да ідна —*
*гукі музыкі, словы...*
*П'ю да дна, да канца*
*слодыч мілых мелодый —*
*як ваду забыцця,*
*як віно асалоды.*
*Над кудзельнай смугой —*
*барадатае сонца.*
*Я — ніколі з табой,*
*хоць і вольны бясконца.*
*Так цябе навучыў*
*твой прарок Заратустра?*
*Д'ябал нас разлучыў,*
*хто нас кіне насустрач?!*
*А былыя сябры —*
*як пустыя арэхі:*
*пагукай у бары —*
*не пачуеш і рэха.*
*Рызыкую не ўсім —*
*дабрабытам і славай,*
*да якіх мне зусім*
*абыякая справа.*
*Я прыйшоў да цябе*
*не сугнеем няшчасным:*
*невыносна цярпець,*
*калі сэрца на часткі.*
*Я цябе дакараў,*
*ты ж — ці ўсё даравала?*
*Дык не стой у дзвярах —*
*бы ў цясніне Дар'яла!..*
*Цень прадвесняга дня —*
*смутак мой вечаровы.*
*Ад ідна да ідна —*
*гукі музыкі, словы...*
*Гэты дзень карацей*
*за салоўчую песню:*
*прыгалубіць хацеў —*
*у грудзях стала цесна.*
*П'ю да дна, да канца*
*слодыч мілых мелодый —*
*як ваду забыцця,*
*як віно асалоды...*
*Хоць яно і гарчэй*
*ад любові расстайнай,*
*ды ямчэй і ярчэй,*
*чым жаночая тайна!*
*Хоць яно і гарчэй, —*
*гарачэй смага-прысак:*
*не замружвай вачэй —*
*смутак роспачы высах...*
*Хай буяе быльнёг!..*
*Я сумую па часе,*
*калі побач было*
*невыноснае шчасце.*

## ЗАМЕЖЖА

* ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

*Беларуская Амерыка: людзі і лёсы*

**Леаніла КАЛІНОЎСКАЯ:**

# IV. "Вартасць чалавека ў сіле духу"

**— Спадарыня Леаніла, вы амерыканка, але ваш лёс, лёс вашых бацькоў непарыўна звязаны з Беларуссю...**

— Кожны чалавек, народжаны ў пэўнай краіне, цесна звязаны з гэтай краінай. Свядома ці несвядома, але гэта частка тваёй душы. Такой краінай для мяне заўсёды была Беларусь. Там магіла майго бацькі...

**— Ён памёр, калі вы былі маленькай дзяўчынкай?**

— Яго забілі. Як сёння, памятаю. Быў дзень Узвіжання 1942 года. У нашу хату ўварваліся партызаны. Схапілі бацьку пад пахі, вывелі на вуліцу... Пісталет у вуха... Стрэл... І мазгі яго былі на сцяне. Мы, дзеці, усё гэта бачылі. Мне было 7 гадоў...

**— А кім быў ваш бацька?**

— Бацька мой Антон Антонавіч Каліноўскі служыў святаром у Валеўцы ля Навагрудка. Ён быў шчырым беларускім патрыётам, шмат каму дапамагаў. А яго абвінавацілі ў тым, што не хацеў адмовіцца ад Бога.

Пяцьдзесят гадоў я несла па жыцці думку: дзе магіла бацькі? Мо зняважана, мо зруйнавана, мо на ёй што пабудавана... Я ўсё сваё жыццё сніла яго.. І вось у 1990 годзе ў Саўт-Рывер прыехаў паэт Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён выступаў з канцэртам у беларускім цэнтры. Я паглядзела хлопцу ў вочы і адразу палюбіла яго. Пасля канцэрта я расказала Сержуку пра бацьку. Папрасіла: з'ездзі ў Валеўку і паглядзі, ці ёсць там магіла. Сяржук пагадзіўся і зрабіў усё, што я прасіла. І напісаў мне, што быў у Валеўцы і тутэйшы святар паказаў яму магілу майго бацькі... На магіле стаялі кветкі, пастаўленыя невядомай рукой... Людзі помнілі, за што і як загінуў мой бацька. І мяне гэта вельмі ўзрушыла. Такога ўздыму, як тады, я не мела ніколі ў сваім жыцці. Я вырашыла, што на магіле бацькі павінен стаяць помнік... Так яно і адбылося. Дзякаваць Богу і людзям, у дзень 50-годдзя з дня яго смерці мы з братам былі ў Валеўцы і пасвяцілі помнік на магіле бацькі... З маёй душы зваліўся вялікі камень.

**— Пасля таго, як забілі вашага бацьку, вы, мусіць, не маглі болей жыць у Валеўцы?**

— Так. Бо пагражалі таксама забіць і ўсіх нас. Мы падаліся на Захад. Жылі ў лагерах для перамешчаных асоб. Паколькі я была хворая з дзяцінства, эмігрыраваць у іншую краіну было вельмі цяжка. Усюды бралі здаровых і маладых. А мама была адна з трыма дзецьмі. Неўзабаве яна выйшла замуж, і праз стараннe Сусветнай царкоўнай дапамогі нам далі візу ў Амерыку. Прыехалі мы сюды ў лістападзе 1952 года. Чалавек, які нас выпісаў, не мог пакінуць нас у сябе. Ён знайшоў нам невялікую кватэрку ў горадзе Анайда, Нью-Йорк. А ў гэты час па горадзе пайшлі чуткі, што прыехала сям'я і не мае ні жылля, ні работы. Амерыканцы — вельмі добрыя людзі. Яны ўсім дапамагаюць. Пакуль мы тыдзень адпачывалі, яны арганізавалі дапамогавы камітэт, знайшлі айчыму працу, сабралі мэблю нам у кватэру... Так пачалося наша жыццё ў Амерыцы. Мяне ўзялі ў шпіталь і пачалі лячыць. Нават навучылі крыху хадзіць...

**— А вы да таго часу зусім не хадзілі?**

— Не. Але і тая хадзьба, якой мяне навучылі, таксама радасці не прыносіла. Яна каштавала такіх высілкаў, што праз крокаў дваццаць у мяне ў вачах цямнела... Праз месяцаў шэсць лекары апусцілі рукі, і я вярнулася дадому, стала саматугам вучыць англійскую мову...

**— Як гэта саматугам?**

— Слухала радыё, запамінала словы, глядзела ў слоўнік, што яны значаць, і так з дня ў дзень. І ведаеш, даволі хутка апанавала мову. Паступіла ў вышэйшую школу на бухгалтара, выдатна скончыла яе. Прыехала дадому. Як жыць далей? Мама купіла мне старэнькую машыну. Я навучылася кіраваць. Знайшла работу, і вось ужо 35 гадоў працую ў адной і той жа кампаніі, мела шмат падвышкаў...

**— А зараз чым вы займаецеся?**

— Закупляю для кампаніі аптовыя партыі абсталявання для ацяплення, каналізацыі. Праца не складаная, але вельмі адказная.

**— Спадарыня Леаніла, вам, мо як нікому, было цяжка выбіцца ў людзі. Вы былі на калясцы?..**

— Так. У 1958 годзе я дзесяць месяцаў шукала сабе працу. Тады не было раўнапраўя для тых, каго ў Амерыцы называюць словам, якое тут не любяць і рэдка ўжываюць, — для калекаў. Пра такіх людзей амерыканцы кажуць: фізічна абцяжараны больш, чым іншыя. Але гэта не значыць, што ён горшы за іншых. Калі я дастала працу, я не была замужам і ўвесь свой вольны час аддавала барацьбе з бюракратыяй. У той час у Амерыцы было шмат ветэранаў вайны, фізічна пашкоджаных людзей. Мы разам дамагаліся правоў, роўных са здаровымі людзьмі, арганізоўвалі клубы, праводзілі пратэсты. Мы дабіваліся, каб усе грамадскія месцы былі даступны кожнаму чалавеку. Мы праводзілі мітынгі, якія збіралі сотні тысяч людзей. І вось дзесяць гадоў таму ў Амерыцы прыняты закон аб абароне правоў чалавека, фізічна абцяжаранага. Сёння закон такі, што ўсе ўстановы, арганізацыі, прадпрыемствы, адкрытыя для публікі, павінны быць даступны для людзей на калясках, для сляпых. Гэта тычыцца грамадскіх устаноў, дзе працуе больш чым 50 чалавек. Цяпер я магу праехаць праз усю Амерыку і мне ўсё даступна. Я сама езджу ў Фларыду. Адна-аднюсенька. Сёння ў Амерыцы кожны чалавек, фізічна абмежаваны, можа забыцца, што ён у калясцы. Бо ўсе людзі на свеце — хворыя і здаровыя — маюць аднолькавыя правы. Калі я не магу хадзіць, гэта не значыць, што я не хачу жыць. Я хачу жыць, хачу зарабляць, хачу мець сям'ю... Вартасць чалавека не ў мускулах. Яна ў сіле духу, сіле волі і мазгах. І той, у каго бракуе гэтых якасцей, фізічна застаецца жывым, а духоўна — мёртвым.

**— І ўсведамленне гэтага трымае вас на свеце, дапамагае перамагаць цяжкасці, змагацца за сваё шчасце, хоць усё гэта часам даецца праз боль...**

— Ды не часам, а амаль заўсёды. Але ў мяне ёсць мэта: жыць так, як жывуць здаровыя людзі. Я хачу даказаць, што я змагу так жыць.

**— Вы ўжо даказалі!**

— Я даказала сабе і свайму колу людзей. Я хачу даказаць свету. Я хачу даказаць гэта беларусам на Бацькаўшчыне, якія, за выключэннем адзінак, гэтага пакуль што не разумеюць. Сутнасць маіх разважанняў у тым, што дзяржава павінна служыць чалавеку. І ў першую чаргу слабейшаму ў фізічных адносінах чалавеку. Не піхаць слабага, а дапамагаць яму. У гэтым наша чалавечнасць.

**— Спадарыня Леаніла, вы, якая на сваім жыццёвым шляху бачыла столькі добрага і злога, шчырага і абыякавага, што найбольш цэніце ў чалавеку?**

— Любоў! Да жыцця, да радзімы, да людзей. Без любові наша жыццё сумнае і пустое. Любоў напаўняе яго сілаю, радасцю і болем... У мяне шмат сяброў. Адны з вышэйшых сфер, другія зусім без навукі. З аднымі я гуляю ў шахматы, з другімі — у карты. Бо, каб мець сябра, ты мусіш перш за ўсё сам быць сябрам. Такая мая філасофія.

**— Прайшло больш за 40 гадоў, як вы пакінулі Беларусь, але вы не забыліся ні роднай мовы, ні народных традыцый, ні матчыных песень...**

— Заслуга гэта не мая, а маіх бацькоў. Маці мая была шчырай беларускай. Айчым — паэт Янка Золак — сапраўдны беларускі патрыёт. Яны свята захоўвалі ў сям'і ўсе нашы беларускія традыцыі. На Каляды ў нашай хаце пад абрусам заўсёды было сена, на Вялікдзень — на стале кулічы. А на вуснах і ў сэрцы — беларускае слова...

**— Беларускае слова абудзіла ў вас паэтычны дар, і вы пачалі пісаць вершы...**

— Ну, гэта не зусім вершы. Справа ў тым, што я вельмі люблю музыку і калі пачую амерыканскую мелодыю, якая мне вельмі падабаецца, я пішу да яе беларускія словы... А пасля спяваю.

**— Прачытайце, калі ласка, што-небудзь...**

— Асенні ліст ляціць з галінаў.
Чырвоны ліст і залаты, —
Як пацалункаў успаміны,
Як слёз самотных дождж густы...
З табой прайшла пара кахання
І праміналі дні вясны...
Марозіць душу боль расстання,
А шлях мой крыюць туманы...

**— Дзякуй! Спадарыня Леаніла, у вашым доме шмат карцін. І на кожнай беларускія краявіды...**

— Усе карціны, што ёсць у маім доме, намалявала мая мама — Лідзія Каліноўская-Даніловіч. Так склалася яе жыццё, што яна не мела шмат аказіі маляваць. Мама прайшла праз усю вайну, зберагла ўсіх дзяцей, але здароўе страціла і ў 1963 годзе памерла... Паміж работай і хваробай яна малявала. Гэтыя карціны — мая памяць пра яе... Некаторыя з іх я аддам у беларускія музеі. Пакуль што не вырашыла якія. Бо кожная з іх для мяне як жывая...

**— Спадарыня Леаніла, вы носіце прозвішча нацыянальнага беларускага героя — Кастуся Каліноўскага. А што лучыць вас з Каліноўскім?**

— Калісьці маці гаварыла мне, што Кастусь Каліноўскі наш далёкі продак, але ніякіх доказаў гэтага я не маю. Усе нашы дакументы ў вайну былі знішчаны. Так што гэта толькі мроя...

**— Але дух Каліноўскага ў вас жыве!**

— Жыве! Таму і я змагаюся і жыву. І на заканчэнне хачу сказаць вось аб чым. Адзіная прычына гэтай гутаркі — падняць у Беларусі праблему раўнапраўя для людзей не 100-працэнтна здаровых. Мне вельмі сумна, што на Беларусі для іх робіцца так мала. Яны павінны змагацца за свае правы. Няхай маё жыццё будзе ім прыкладам.

**Гутарыў Леанід ПРАНЧАК.**

# Кроссворд

**Евгений Горбовой, г. Минск**

**По горизонтали:** 5. Мяч с оперением для игры в бадминтон. 6. Государство в Африке. 9. Драгоценный камень. 11. Овощная культура рода лук. 12. Сборник разновременных и разнохарактерных сочинений о сотворении мира. 15. Столица европейского государства. 17. Бюджетные ассигнования на покрытие убытков отдельных отраслей. 18. Емкость для хранения, упаковки и транспортировки товаров. 19. Дубильное, лекарственное, красящее многолетнее травянистое растение из рода лапчатка. 20. Герой греческой мифологии, наделенный необычайной силой. 24. Преимущество, льгота, предоставляемая более слабому или находящемуся в невыгодных условиях участнику соревнования, игры. 25. Европейское государство. 26. Крупная птица, распространенная в Беларуси. 29. Мелкая птица, обитающая в лесной зоне Евразии. 30. Условное обозначение в системе какой-либо классификации. 31. Вечнозеленое травянистое растение лесной зоны северного полушария, используемое в фармацевтической промышленности и литейном производстве. 33. Хвойное вечнозеленое дерево. 34. Совокупность вооруженных сил государства.

**По вертикали:** 1. Плавучая опора наплавного моста. 2. Столица африканского государства. 3. Крупное животное лесов тропической Африки и Азии. 4. Строительный материал. 7. Город в Красноярском крае. 8. Город на берегу Восточно-Сибирского моря. 10. В греческой мифологии чудовищная девятиголовая змея. 13. Хроническое заболевание, проявляющееся отложением солей и заболеванием суставов. 14. Государство в Западной Африке. 16. Решительный момент наступательных действий войск, сочетающий огонь и стремительное движение. 18. Порода собак. 21. Легкоатлетический снаряд для метания. 22. Южное растение с крупными плодами. 23. Род многолетних трав, распространенных по сырым местам умеренного и холодного поясов. 27. Серия советских космических кораблей. 28. Бесцветная жидкость, применяемая в производстве красителей и в фармацевтическом производстве. 31. Спиртной напиток из нескольких компонентов. 32. Подземное жилище дикого животного с ходом наружу.

### Ответы на кроссворд, опубликованный 15.05.93 г.

**По горизонтали:** 7. Петриков. 8. Гармония. 10. Индоссамент. 12. Желна. 13. Аршин. 14. Опека. 17. Резеда. 19. Анналы. 20. Боливар. 21. Юнга. 22. Мопс. 24. Кусачки. 26. Ростра. 27. Ядрица. 28. Тезис. 31. Сайра. 33. Диона. 34. Амортизатор. 35. Оратория. 36. Фибролит.

**По вертикали:** 1. Секретер. 2. Лиана. 3. Золото. 4. Заимка. 5. Гмина. 6. Шиншилла. 9. Эссе. 10. Интернатура. 11. Транспортир. 15. Полесье. 16. Кавычки. 18. Абака. 19. Армия. 23. "Богатыри". 25. Сценарий. 28. Турник. 29. Заир. 30. Стадия. 32. Амвон. 33. Домра.

## СПРОСИТЕ ЮРУ

### Что останется, поделят

*Больше года назад купил за тысячу рублей акцию Белорусского биржевого банка. Сейчас банк закрыли. Вернут ли мне деньги?*

***Василий УХНАЧЕВ.***

*Минский район.*

Скорее всего вернут. Так мне сказали в ликвидационной комиссии. Но надо приехать по адресу: г.Минск, ул.Сурганова, 8 и оставить свое заявление. Претензии кредиторов принимают по 13 июня. Пока идет сверка акционеров банка. Затем будут погашаться претензии кредиторов, а что останется — поделят между акционерами.

### Заграница есть заграница!

*Каков порядок выезда в страны Прибалтики?*

***Наталья МЯСОЧЕНКО.***

*г.Брест.*

В Литву — безвизовый, но по загранпаспорту (союзного образца). В Латвию и Эстонию — визовый. Но в Беларуси нет диппредставительства Эстонии, и за визой следует ехать в их представительство в Литве. Латвийскую визу, например, частную разовую, выдают в посольстве Латвии в Беларуси по адресу: г.Минск, ул.Сторожевская, 15, гостиница "Беларусь". Предъявляешь загранпаспорт, заполняешь анкету и ждешь в течение 10 дней. Дают "добро" — плати 10 долларов — и вперед, за границу.

### Это потруднее, чем губы накрашивать...

*Как стать врачом-косметологом?*

***Екатерина РАКОВА, 17 лет.***

*г.Жодино.*

Для начала успешно закончить школу и поступить на лечебный факультет мединститута. После шести лет обучения надо пройти годовую интернатуру по дерматологии и немного попрактиковать врачом-дерматологом. Затем, заручившись направлением главврача медучреждения, заведующего здравотделом, после отбора пройти 5-месячную первичную специализацию в Минской косметологической лечебнице. И диплом врача-косметолога у вас в руках. Только и всего.

### Тюк-тюк-тюк, загрязнился мой утюг

*Как очистить утюг от нагара?*

***Валя КЕРЕНКО.***

*г.Гомель.*

Есть два испытанных способа. Густо насыпать на плотный лист бумаги мелкую соль и хорошенько пройтись по ней слегка нагретым утюгом. Соль снимет прилипшие ворсинки и крахмальные остатки (кстати, добавляйте в крахмал соль, и он не будет прилипать к утюгу) и отполирует утюг. Можно пропитать тряпку нашатырным спиртом и прогладить нагретым утюгом. Если вы довели утюг до ржавчины, придется удалять ее мелкой наждачкой, затем горячий утюг смазать воском. Немного выждав, протереть мелкой солью и окончательно — мокрой тряпкой. И не вздумайте скрести утюг ножом или лезвием.

### Малыш, поджигай?

*В "комках" появилась китайская пиротехника. Кто разрешил продавать эти опасные "игрушки"?*

***Василий ЗАЙЦЕВ.***

*г.Минск.*

Никто. Милиция интересуется лишь боевым и газовым оружием. В правилах мелкорозничной торговли нет даже упоминания о пиротехнике. А что не запрещено, то, сами понимаете ... Не знаю, насколько 150-рублевые китайские ракеты опаснее хлопушки или бенгальских огней, но в Министерстве торговли пообещали разобраться.

### Младший лейтенант, подпиши контракт?

*Правда ли, что недавно министр обороны Беларуси издал приказ обучающихся в странах СНГ белорусских курсантов в наши военные вузы не переводить?*

***Сергей В., офицер.***

*г.Минск.*

Кадровые службы министерств обороны России и Беларуси сейчас прорабатывают возможность о заключении контрактов на службу в российской армии с белорусскими выпускниками российских военных училищ. Из 9 тысяч белорусских курсантов, обучающихся в странах СНГ, на Родине смогут пока трудоустроить лишь треть. Условия контракта не предусматривают принятия присяги на верность России, но сохраняют для них все льготы по законодательствам России и Беларуси. По словам пресс-службы Минобороны Беларуси, сержант-сверхсрочник российской армии теперь получает больше белорусского офицера — командира роты. Кто же не захочет служить по контракту, все равно получит диплом военного специалиста.

**Рубрику ведет Юрий НОЯРОВИЧ.**

*Хотите — верьте, хотите — нет*

## Знаки зодиака обещают...

... **КОЗЕРОГУ** (22 декабря — 20 января) — очень сильные изменения. Вас станет тяготить упорная деятельность. Самое время расслабиться и собраться на отдых. Рабочее настроение придет лишь в четвертой декаде следующего месяца.

Неблагоприятный день — 28 мая.

... **ВОДОЛЕЮ** (21 января — 19 февраля) — везение, которое должно обязательно сочетаться с вашей целеустремленностью и желаниями. В финансовом и моральном планах произойдут положительные сдвиги.

Неблагоприятный день — 28 мая.

... **РЫБАМ** (20 февраля — 20 марта) — период подъема, возвышенного состояния души. Вам повезет, ждут путешествия и экскурсии, интересные поездки. Однако будьте внимательны к своему здоровью.

Неблагоприятный день — 28 мая.

... **ОВНУ** (21 марта — 20 апреля) — изменения в вашем кругу общения. Период способствует творческим успехам сильных духом и одаренных Овнов. В личной жизни — порядок.

Неблагоприятный день — 28 мая.

... **ТЕЛЬЦУ** (21 апреля — 21 мая) — небольшие проблемы на работе. В семье царит мир, взаимопонимание и спокойствие. Вас поддерживают и помогают родные. Ваша главная задача — к осени 1993 года довести до конца цели, намеченные в сентябре-октябре 1992 г.

Неблагоприятные дни — 26, 31 мая.

... **БЛИЗНЕЦАМ** (22 мая — 21 июня) — поддержку старших, друзей, родственников. Вас вдохновит своим посещением Муза и своими щедростями озарит богиня любви Венера. Если вы справитесь с финансовым прессингом — все остальные трудности вас минуют.

Неблагоприятные дни — 25, 28 мая.

... **РАКУ** (22 июня — 22 июля) — уединение от мирной суеты. У вас появится желание спокойно разобраться в себе, своих чувствах и делах. Творчески одаренных людей ожидает небывалый подъем вдохновения.

Неблагоприятные дни — 25, 29 мая.

... **ЛЬВУ** (23 июля — 23 августа) — позитивные изменения в жизни и делах. Многое из задуманного станет сбываться. Настроение Львов будет хорошим.

Неблагоприятные дни — 28, 31 мая.

... **ДЕВЕ** (24 августа — 23 сентября) — общение с различными людьми, которое пойдет на пользу. Материальное положение изменится в лучшую сторону. В этот период, однако, против вас могут быть затеяны интриги, ваши действия могут быть неправильно истолкованы.

Неблагоприятные дни — 25, 30 мая.

... **ВЕСАМ** (24 сентября — 22 октября) — улучшение вашего обаяния среди окружающих. Вам симпатизируют. Переживания и потрясения — позади. Вы вновь способны решать сложные задачи.

Неблагоприятные дни — 26, 30 мая.

... **СКОРПИОНУ** (23 октября — 21 ноября) — некоторые неурядицы. Сбавьте обороты — вас может занести на поворотах, вы можете потерять бдительность, а это обстоятельство, безусловно, не лучшим образом отразится на жизни и делах.

Неблагоприятные дни- - 25, 29 мая.

... **СТРЕЛЬЦУ** (22 ноября — 21 декабря) — хорошее настроение и отдых от всех дел. На личном фронте ожидают любопытные встречи. Будьте внимательны к своему здоровью.

Неблагоприятные дни — 24, 29 мая.

*Светская хроника*

# В Минске у Киркорова была премьера. Премьер, оказывается, не знал...

**Приезд в белорусскую столицу очередной эстрадной "звезды" — Филиппа Киркорова был отмечен крупным, а по его мнению, и политическим, скандалом.**

**Алесь СИВЫЙ**

Но обо всем по порядку. 30 апреля в белокаменной Филипп Киркоров устроил небольшой фуршет по случаю собственного 26-летия. Поскольку его двухкомнатная квартира в районе Таганки всех желающих вместить не могла, мероприятие перенесли в ресторан Всесоюзного (название-то какое!) театрального общества. Отдохнули знатно! Отметив таким образом праздник детства, Филипп отправился в ближнее зарубежье тряхнуть стариной, всероссийски известной шевелюрой, а заодно и потрясти карманы принимающих сторон. Но гладко было на бумаге... В контракте значилось — концерты, отдых в правительственной резиденции и катание на "Чайке". Какая "звезда не любит быстрой езды! На заре Филипп прибыл в Минск. Сонный милиционер протянул прибывшим записку: "Вас ждут в гостинице "Минск", а дежурная, несмотря на страстный порыв певца доказать, что он и есть тот самый Киркоров, в упор не желала признавать любимца публики: "Апартаменты сданы индийской делегации". Пришлось ехать в общую гостиницу. Позже, правда, выяснилось, что никакой делегации не было, а официальные лица на следующий день извинились перед артистом за недоразумение. Но Киркоров в духе автоконферансье не преминул на первом же концерте огласить эту странную историю всему честному народу, который пришел за свои кровные 600—700 рэ, надо полагать, послушать песни, а не исповедь обиженного...

"Мне обидно, что какие-то клерки из управления так подставили вашего премьера", — печально заявил Киркоров, при этом не отрицая, что правительственную "Чайку" в его распоряжение все же дали.

Любопытно, кстати, почему уважаемый певец прилюдно не упомянул о дополнительно выплаченных ему процентах? За "моральный износ".

Эх, "звезды", "звезды"... Не зря говорят, будьте попроще, и люди к вам потянутся. Намедни стало известно, что с 28 по 30 мая в минском Дворце спорта будут устраивать дискотеки сексопильные парни из "Мальчишника", и, кто знает, не взбредет ли в голову и этой шебутной ребятне побалдеть денек-другой в здании Верховного Совета. Или устроить где-нибудь в госучреждении эдакий "секс, секс без перерыва", о чем они мечтают в своем хите. Хороши аппетиты у поющих звезд! Жаль только, что им потворствуют те, кто берется устраивать концерты и идет на поводу у любимцев публики.

Вернемся, однако, к Филиппу Борисовичу и отдадим должное его профессиональным навыкам удовлетворять публику песнями. Концерты прошли на уровне. Зал встречал премьерные песни артиста бурными аплодисментами. Нет сомнений, что не последнюю скрипку в популярности Киркорова сыграл его генеральный директор О.Н.Непомнящий, человек очень интеллигентный и известный в широких кругах шоу-бизнеса, работавший ранее и с Аллой Пугачевой, и с Володей Пресняковым.

Впрочем, популярность — штука опасная. Если раньше публика, равно как и песни, была более степенной, то сейчас поклонники норовят вписать свое имя рядом с талантами почему-то в милицейских протоколах. Кажется, Сергею Чумакову не так давно попортили физиономию на "южных" гастролях. Киркоров не боится. Во-первых, у него имеется один профессиональный телохранитель, во-вторых, и сам он не из дохлого десятка. Его мускулистое тело (сам видел. — А.С.) красуется на рекламных плакатах и календариках. Что касается роста, то тут и вовсе — полный атас! Опровергнув все утверждения медицинских специалистов, что рост прекращается в 25 лет, Киркоров за последний год добавил к своим 197 еще 4 сантиметра! Короче, всем взял: и голосом, и волосом, и ростом.

Сложнее с женщинами. Две сестры из дуэта "Поцелуй", работавшие раньше на площадках вместе с Киркоровым, во время гастролей по Соединенным Штатам сделали своему кормильцу ручкой, что означало: "на диком Западе русские девушки всегда в почете". Сейчас, по словам Филиппа, они поют в одной американской столовой для престарелых и, может быть, изредка снимаются в "Плейбое".

"Напоследок я им пожелал, — сказал перед концертом певец. — Девушки, берегите себя! СПИД — не спит!"

Между прочим, этот случай, когда девушки уходят от Киркорова, можно отнести к разряду сенсаций, ибо нередко случается обратное. В одном из городов, где выступал Филипп, невеста, к несчастью жениха, удосужилась сходить на второй день после бракосочетания на концерт. И то ли суженый не произвел должного впечатления в первую брачную ночь, то ли душещипательные песни Киркорова возымели эффект — девушка отрешилась от всех и три (!) года, как футбольный фанат, каталась за певцом по всем городам и весям нашей бывшей необъятной Родины. Остается только догадываться, на какие шиши она все это время жила и что затем сделал с "заблудшей овцой" ее бывший молодожен.

... Перед выходом на концертный помост минского Дворца спорта Филипп Киркоров переодел "заимствованную" в Лос-Анджелесе джинсовку на свой любимый черный костюм с золотыми куполами, еще раз глянул на купленные за 300 долларов там же часы, поправил на правой руке увесистый перстень.

С Богом, Филипп Борисович! Время — деньги.

**P.S. Для фанов: по итогам практически всех музыкальных хит-парадов Филипп Киркоров стабильно входит в десятку лучших музыкальных исполнителей СНГ. В перспективе у эстрадного певца — гастроли в Австралии.**

